Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.



# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр.250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 11. Вільня, Чацьвер, 20-га сакавіка 1924 г. Год I.

## Угодкі марцовае рэвалюцыі.

Рэкі крыві праліў стары царскі ўрад у барацьбе з кожнай праявай імкненьня працоўных масаў Расейскае Імпэрыі да вызваленьня з цяжкога палітычнага, сацыяльнага і нацыянальнага ярма. Сотнямі тысяч байцоў за волю народную запоўніў вастрогі і засяліў неаб'ятныя прасторы Сібіры. І крывавы Мікалай Апошні, найбольш крыважадны спаміж усіх расейскіх „самадзержцаў“, думаў, што можа спаць спакойна, што небясьпека ўжо прайшла....

Але магутнага імкненьня народаў самадзяржаўнае Расеі да волі не маглі зламаць ні вастрогі, ні Сібір, ні шыбеніцы і разстрэлы. І калі ўзьнялася сусьветная вайна, калі блізу дваццаць міліёнаў сялян і работнікаў былі выстаўлены на фронт дзеля змаганьня за інтарэсы маскоўскага і антанцкага капіталу, калі гэтыя масы людзей усіх нацыянальнасьцяў, маючы ў руках аружжа, пачулі і зразумелі, якую вялізарную сілу яны прадстаўляюць,—імкненьне да волі выбухнула сярод іх з нябывалай сілай. А страшэнныя крывавыя ахвяры, зложаныя на алтар Залатога Цельца, бязупынныя ваенныя няўдачы ў барацьбе з шмат менш чысьленымі ворагамі, утрата веры ў сумленнасьць і здольнасьці тых, хто вёў міліёны людзеў на бязслаўную і безкарысную сьмерць,—усё гэта падгатавала і выклікала так званую *марцовую* рэвалюцыю, якая ўзьнялася роўна сем гадоў таму назад.

Гэтыя ўгодкі мы і хочам сёньня адзначыць. Сем гадоў таму назад магутны парыў аружнага народу скінуў з пасаду апошняга „усерасейскага“ цара і замест ягонае ўлады абвесьціў уладу самога народу — адзінага праўнага валадара сваей зямлі.

Але першая перамога расейскае рэвалюцыі была далёка няпоўная—была аднабокая: яна давала палітычную волю, але не зачапіла ўлады над працоўнымі масамі неадлучнага таварыша царызму—капіталу. І гэты капітал, перажыўшы ўпадак царскае ўлады, паказаў усю сваю сілу і моц, пагнаўшы расейскія арміі на далейшае праліваньне крыві, на далейшую бойню.

„Вайна да пабеднага канца!“—абвесьціў „дэмакратычны“ ўрад рэвалюцыйнае Расеі, верны загадам сваей і антанцкай буржуазіі.— „Вайна да поўнае перамогі над Нямеччынай!“

Пры першых праявах рэвалюцыі паднялі галаву ўсе няволеныя вякамі народы Расеі. У першы мамэнт усе шчыра верылі, што ў вольнай дэмакратычнай Расеі настане воля і для нацыянальнасьцяў, якім яшчэ напярэдадні рэвалюцыі забаранялі нават гаварыць сваей роднай мовай.—Але і для „інародцаў“, як і для расейскіх працоўных масаў, акрыяўшая буржуазія мела адзін адказ: кулак. Стары кліч царскага ўраду: „Единая недѣлимая Россія!“—ня ўтраціў сваей сілы.

І мы бачым, як народы-нявольнікі адзін за адным перастаюць верыць у прыход волі для іх пад новай уладай, пачынаюць рыхтавацца да барацьбы з *усякай* Расеяй—за поўнае сваё вызваленьне.

Ідуць месяцы. Ізноў на фронце ліецца кроў. І тыя, што станулі наперадзе рэвалюцыйных масаў, калі яны ў шчэпкі разнасілі царскія троны, — цяпер, здабыўшы ўладу, самі гоняць народ на лютую сьмерць. Чаму? Бо яны ўбаяліся, што аружныя масы, вярнуўшыся дамоў, *пойдуць далей*, чымся гэтага хацелася расейскай буржуазіі.

Ды дарма! Быццам сьнежная лавіна, што зрушыла з гор і з нястрыманай сілай імчыцца ўніз, ламаючы ўсё на сваей дарозе, разрастаўся і паглыбляўся ў масах рэвалюцыйны рух. „Даволі вайны!“ — гэты кліч, які прайшоў па ўсей лініі расейскіх акопаў, быў першым пратэстам проці „дэмакратычнага“ ураду, сябраваўшага з буржуазіяй. „Даволі панаваньня буржуяў!“ „Зямля для народу!“—праграмеў за ім новы лёзунг, які разсыпаўшыяся рады войск разьнясьлі па ўсіх канцох гаспадарства на сваіх штыхах.

На нашых вачох кліч гэты—натуральны вынік марцовае рэвалюцыі—абярнуўся ў дзела. І мы бачылі, як *палітычная рэвалюцыя ператварылася ў сацыяльную*, бачылі, як *развалілася адвечная „усерасейская“ турма народаў*, а на месцы Імпэрыі цароў, сілай аружжа, панаваўшай над зваяванымі народамі, *вырас братні саюз* сацыялістычных радавых рэспублік, у якім пачэснае месца займае і ўваскросшая *Беларусь.*

Марцовая рэвалюцыя сама па сабе не дала тых вынікаў, якіх ад яе спадзяваліся. Але затое яна раскалыхала, разварушыла працоўныя масы старое Расеі, на дзеле пераканала іх, што *толькі яны зьяўляюцца запраўднымі гаспадарамі ў сваей старане*, і вось гэтыя масы магутным разгонам сваім *давялі не вайну, а рэвалюцыю „да пабеднага канца“*.

У гэтым — гістарычнае значэньне таго першага кроку, які аружны народ Расеі зрабіў сем гадоў таму назад.

## Адзіны фронт капіталістау.

### Адзінаму фронту рэакцыі трэба праціставіць адзіны фронт працоўных.

Капіталісты і абшарнікі заўсёды маюць супольныя інтарэсы і падтрымліваюць адны другіх. Перашкодаю ў гэтым ня можа быць прыналежнасьць да тэй ці іншай нацыі ці рэлігіі, адзінства інтарэсаў — панаваньне над працоўнымі—дыктуе ім патрэбу тварэньня цеснага саюзу, бяз розьніцы нацыянальнага паходжаньня. І калі мы чуем нападкі буржуазнай прэсы на жыдоў, немцаў і іншых меншасьцяў, дык гэта толькі дзеля таго, каб адвярнуць увагу шырокіх масаў у іншы бок, адвярнуць ад запраўдных яго ворагаў, і даць выхад нездавольству гэтых масаў, цкуючы іх на прыгнечаныя нацыянальныя меншасьці.

Але, калі трэба змагацца з масай працоўнага народу, калі трэба яшчэ больш паняволіць яго і пазбавіць нават тых правоў, якія яму ўжо ўдалося здабыць, дык салідарнасьць капіталістаў выступае вельмі яскрава і яны нават не стараюцца яе маскаваць.

Характэрны прыклад гэтага дае нам орган нашых абшарнікаў „Słowo“. Польскай рэакцыі йдзе ведама аб тое, каб зьмяніць „дэмакратычную“ польскую канстытуцыю і выбарны закон так, каб забясьпечыць сабе поўную перавагу ў Сойме і Сэнаце. Выбары ў цяперашні Сойм паказалі, што абшарніцка-капіталістычная большасьць ня вельмі вялікая і няма поўнай гарантыі, што пры сучасным выбарным законе ў будучым Сойме палажэньне зьменіцца на іх карысьць. Ясна, што трэба зьмяніць закон так, каб правы працоўнага народу, а асабліва беларускага і украінскага, зьвесьці да мінімума. Але бяда ў тым, што пры сучасным укладзе сілаў у Сойме няма патрэбнай большасьці, каб правясьці гэтыя зьмены, бо польская лявіца, ня гледзячы на ўсё яе выслугоўваньне буржуазіі, наўрад ці адважыцца на адкрытую здраду аддаўшага ёй галасы сялянства і работнікаў.

Дык, каб найсьці выхад з гэткага прыкрага палажэньня, трэба польскім абшарнікам і капіталістам шукаць падтрыманьня сярод абшарнікаў і капіталістаў ня польскіх нацыянальнасьцяў — знача жыдоў і немцаў, бо прадстаўнікі ў Сойме беларускага і украінскага народу, які ў пераважнай большасьці складаецца з сялян і работнікаў, не падтрымаюць панскіх замераў.

Вось аб гэтым вельмі шчыра і адкрыта і піша „Słowo“.

Яно сьцьвярджае, што да гэтага часу польскія шовіністы *аднолькава няпрыхільна трактуюць усе нацыянальныя меншасьці*, што гэткая палітыка абсурдальна і можа прывясьці дзяржаву да катастрофы, што адзінай магчымай і адзінай мэтнай палітыкай імпэрыялістычнай дзяржавы, якой зьяўляецца Польшча, павінна быць палітыка, выражаючаяся ў словах „divide et impera“ (падзяляй і валадай).

Сьцьвердзіўшы, што для рэформы выбарнага закону ня можна спадзявацца на украінскіх і беларускіх паслоў, „Słowo“ пераконана, што для гэтай мэты лёгка можна здабыць галасы нямецкіх абшарнікаў і прамыслоўцаў і жыдоўскую клерыкальную рэакцыю — ортодоксаў, якія маюць супольныя эканамічныя і сацыяльныя інтарэсы з польскай буржуазіяй. Справай саюзу з нямецкімі капіталістамі і жыдоўскімі рабінамі „Słowo“ прапануе заняцца нацыянальна-хрысьціянскай партыі, у якой рэй водзяць пазнанскія абшарнікі. Каб зьмяніць выбарны закон у кірунку ўмацаваньня сілаў рэакцыі ў будучым Сойме, зьмяніць польскую канстытуцыю, каб загварантаваць поўную неабмяжаваную ўладу буржуазіі, а нават увясьці манархію ў Польшчы, заўсёды знойдзецца моцны грунт для паразуменьня паміж польскімі, нямецкімі і жыдоўскімі капіталістамі, паміж каталіцкімі біскупамі і ксяндзамі, протэстанскімі пастарамі і жыдоўскімі рабінамі. Гэта ў парадку рэчаў.

Але працоўны народ павінен зрабіць таксама з гэтага належныя вывады і цьвёрда памятаць, што яго перамога ў барацьбе з уціскам капіталістаў і абшарнікаў можа даць дадатнія вынікі толькі пры поўнай салідарнасьці ўсіх працоўных:—сялян і работнікаў усіх нацыянальнасьцяў. Адзінаму фронту буржуазіі — паноў—абшарнікаў, капіталістаў, гандляроў, спэкулянтаў, папоў, ксяндзоў, рабінаў — трэба праціваставіць адзіны фронт работнікаў, сялян і працоўнай інтэлігенцыі.

**Кумельган.**

## Палітычныя падзеі.

### ПОЛЬШЧА.

Міністар скарбу ўнёс у Сойм праект дадатковага буджэту на агульную суму 287.227.557 злотых.

Львіная доля гэтых новых крэдытаў, якіх дамагаецца ўрад ад Сойму, празначана на ваеннае міністэрства—187.045.881 злот.

Гэткім чынам прапанаваныя на гэты год выдаткі Польшчы на войска будуць складаць 605.000.000 злот., г. ё. мала менш паловы яе расходнага буджэту, прадбачанага ў агульнай суме 1.375.817.173 злот.

Толькі 6.000.000 злот. урад просіць дадаткова на дапамогу безработным!...

Пакрыць усе гэтыя новыя выдаткі ўрад думае павялічэньнем на 170.000.000 злот. падатку з маемасьці, на 100% зямельнага падатку, на 40 міл.—прамысловага і г. д.

Гэткім чынам урад думае ўтрымаць раўнавагу ў буджэце...

---

З прычыны слабай падпіскі на акцыі Польскага Банку, урад праектуе адкрыць Банк, як зьбярэцца толькі палова аснаўнога капіталу Банку, але не 60%, як праектавана сьпярша...

---

На мост паміж Ігналінам і Дукштамі зроблены замах пры помачы 4 піраксілінавых шашак, якія не ўзарваліся. Праз некалькі дзён — ізноў замах на чыгунку між Ігналінам і Нова-Сьвянцянамі.

---

Польскі ўрад атрымаў ад італьянскага пазыку ў 400 мільён. ліраў, якая забясьпечана тытунёвым манаполем. Варункі наагул, здаецца, досыць цяжкія. Цікава, што на выпадак вайны і заняцьця польскай тэрыторыі прадугледжана права Італіі... вывесіць на манапольных будынках італьянскія сьцягі.

---

14/III Рада Лігі Народаў вырашыла справу Клайпэды, прыняўшы бяз зьменаў праект камісіі.

# Навакола пашырэньня Б. С. С. Р.

## Вышэйшая асьвета у Радавай Беларусі.

### Радавая Беларусь мае чатыры вышэйшыя школы.

У зьвязку з пашырэньнем тэрыторыі Б.С.С.Р. пад кіраўніцтвам Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі пераходзяць дзьве вышэйшыя школы: Горацкі Сельска-Гаспадарчы Інстытут і Віцебскі Пэдагагічны Інстытут. Разам з Унівэрсытэтам і Менскім Інстытутам Сельскай Гаспадаркі Беларусь будзе мець такім чынам чатыры вышэйшыя школы. Ёсьць праект утварэньня с.-г. інстытуту і з Горацкага с.-г. інстытуту аднае вышэйшае сел.-гасп. школы, пры чым частка факультэтаў будзе знаходзіцца ў Горках, а частка ў Менску. Як паведамляе газэта „С.Б.“, чуткі аб зачыненьні пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ні на чым не пабудаваны. Народны Камісарыят Асьветы лічыць патрэбным існаваньне, як пэдагагічнага факультэту, так і Віцебскага Пэдагагічнага Інстытуту, бо прыняты плян абавязковага агульнага навучаньня патрабуе штогоднага выпуску вялікага ліку настаўнікаў.

### Вышэйшыя школы і краязнауства.

Пры пэдагагічным факультэце Б,Д.У. працуе спэцыяльная камісія, якая праглядае праграму і вучэбны плян факультэту з такім разрахункам, каб прыдаць яму краёвы характар. Такія-ж камісіі ствараюцца і пры іншых вышэйшых школах.

### Навукова-Мэтадычная Рада.

Новы орган, які мае быць арганізаваны пры Народным Камісарыяце Асьветы Беларусі—гэта Навукова-Мэтадычная Рада. У абавязкі гэтае Рады ўваходзіць распрацоўка праграмных і мэтадалягічных пытаньняў у галіне сацыяльнага выхаваньня, прафэсыянальнае і палітычнае асьветы. Да працы ў гэтай Радзе закліканы прафэсары вышэйшых школаў і лепшыя тэорэтыкі профэсыянальна-тэхнічнай асьветы.

### Нарада рэктароу.

Першага сакавіка ў Менску адбылася нарада рэктароў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, Горацкага с.-г. Інстытуту, Менскага Інстытуту Сельскай Гаспадаркі і Віцебскага Пэдагагічнага Інстытуту. Рэктарамі былі зроблены інформацыйныя даклады аб становішчы ўсіх вышэйшых школаў Б.С.С.Р. У зьвязку з пераходам Горацкага с.-г. інстытуту і Віцебскага пэдагагічнага інстытуту пад кіраўніцтва Нар. Кам. Асьветы Беларускае Рэспублікі пасьля нарады выехалі ў Маскву прадстаўнік Нар. Кам. Асьветы Некрашэвіч і праф. Пічэта, а ад Горацкага Інстытуту праф. Кіркор.

## Вышэйшыя школы у Б. С. С. Р.*).

### Горы-Горацкі Сельска-Гаспадарчы Інстытут.

Пасьля далучэньня да Б.С.С.Р. Усходняй Беларусі Горы Горацкі Інстытут становіцца адной з найвялікшых навуковых установ Бел. Рэспублікі.

У гісторыі сельскай гаспадаркі ў Расеі Горы-Горацкаму Земляробскаму Інстытуту належыць віднае і ганаровае мейсца. Чверць стагодзьдзя (ад 1840 да 1864 г.) Горы-Горацкі Інстытут зьяўляўся адзіным пашырацелем вышэйшай сел.-гасп. асьветы. Выхаванцы гэтага Інстытуту зложылі авангард аграноміі ў Расеі; са скончыўшых Інстытут 500 аграномаў, выдзеліўся значны кадр прафэсароў і выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх агранамічных школаў, утварыўшыхся ў другой палавіне XIX-га веку.

Рэвалюцыйны рух 1863 г. прымусіў царскі ўрад адмовіцца ад агранамічнага цэнтру на Беларусі і перанясьці яго ў сталіцу. Быў адчынены Пецярбурскі Земляробскі і Лясны Інстытут, які праіснаваў усяго толькі 12 гадоў і выпусьціў каля 120 аграномаў.

Рэвалюцыя 1917 г. паспрыяла адраджэньню вышэйшае школы ў Горках. У 1919 г. з трох спэцыяльных вучэбных установ (Земляробскай школы, Землямерна-агранамічнай школы і Сельска-гаспадарчай рамесьленнай школы) была ўтворана адна вучэбная ўстанова, якая разьвярнулася ў значны краёвы агранамічны інстытут з аддзяленьнямі: агранамічным, лясным, мэліорацыйным і машыназнаўчым. Пры гэтым-жа Інстытуце быў адчынены рабочы факультэт і землямерны тэхнікум, і ў сучасны момант лічба студэнтаў у Горках дасягае 1250 чалавек.

Матар'яльныя абставіны трохгадовага арганізацыйнага пэрыяду былі вельмі цяжкімі,—аднак арганізатарам Інстытуту ўдалося завяршыць грандыёзную справу адбудаваньня вышэйшай агранамічнай школы, і вынікі гэтай працы скажуцца ў бягучым годзе выпускам першага кадру аграномаў, лясьнічых, мэліоратараў, машыназнаўцаў і каморнікаў. Удача арганізацыйнай і вучэбнай працы Горы-Горацкага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту засьведчана паміж іншым першай усесаюзнай выстаўкай у Маскве, якая ўшанавала Горы-Горацкі Інстытут ганаровым дыплёмам першай ступені (па аддзелу сел.-гасп. асьветы).

Побач з чыста вучэбнай дзейнасьцю Горы-Горацкі Інстытут разгарнуў шырокую навуковую і грамадзянскую працу. У 1920 годзе пры Інстытуце арганізавана сельска-гаспадарчая дасьледчая станцыя, якая ў працягу першага-ж трохгодзьдзя разьвярнулася ў вялікую ўстанову з пяцьма аддзеламі: па паляводзтву, па садоўніцтву і агародніцву, па дасьледаваньню машынаў, па гадоўлі жывёлы і па сельска-гаспадарчай эканоміцы. Гэтая дасьледчая станцыя мае лічны пэрсанал спэцыялістаў і навуковых супрацоўнікаў (да 30 асобаў). Трохі пазьней былі ўтвораны дасьледчыя ўстановы пры мэліорацыйным і лясным аддзелах і пры некаторых агульных катэдрах (аграфізычная лябораторыя, мэтэоролёгічная абсэрваторыя, батанічны сад, аграхімічная і грунтавая лябораторыі). У 1922 годзе, дзякуючы падтрыманьню краёвых зьездаў дзеячоў сельска-гаспадарчай дасьледчай справы ў Заходнім краі, Горацкая дасьледчая станцыя была ўнесена ў дзяржаўную сетку дасьледчых установ, як раённая дасьледчая станцыя і яшчэ летам 1923 году быў зацьверджаны яе штат у 60 чалавек і прынята праграма 5 асноўных аддзелаў.

Выдавецкая праца Інстытуту, дзякуючы ўласнай друкарні, прыняла вялікі размах. У першыя часы ўвага была скіравана на выданьне падручнікаў для студэнтаў. Ад 1923 году выходзяць „Запіскі Інстытута“ і працы паасобных навуковых установ.

### Менскі Інстытут Сельскае Гаспадаркі.

Беларускі Дзяржаўны Інстытут Сельскае Гаспадаркі істнуе толькі другі акадэмічны год, але жыве ўжо поўным жыцьцём, шпарка разьвіваючы ўсе бакі вучэбнае справы, арганізуючы свае навукова-дасьледчыя і вучэбна дапаможныя ўстановы, усе мацней зьвязваючыся ў сваёй працы з практычнымі запросамі і патрэбамі сельскае гаспадаркі Беларусі.

Ужо ў леташнім вучэбным годзе зусім вызначыўся асноўны навукова-практычны кірунак усей вучэбнай справай у Інстытуце: цэнтр цяжару павінен быць ня ў лекцыйных занятках, ня ў здачы студэнтамі залікаў, а ў самай шырокай практычнай працы студэнтаў у лябораторыях, габінэтах, на вопытных палях, станцыях, у жывым вывучэньні прыроды, сельскай і ляснай гаспадаркі Беларусі. Ужо летась былі адведзены чатыры вопытных палеткі, заснован пачатак арганізацыі станцыі па ахове расьлін, па змаганьню з шкоднікамі зоотэхнічнай, машына-выведачнай станцыяў. Балотная станцыя, далёка вядомая па-за межамі Беларусі сваёю працаю, працуе ў шчыльнай сувязі з Інстытутам. Мінулым летам прафэсарамі разам з студэнтамі рабіліся геолёгічныя і глебавыя досьледы Беларусі, якія далі значныя вынікі і завяршыліся складаньнем глебавай і геолёгічнай мапаў.

У бягучым вучэбным годзе зьвернута ўвага Інстытуту на абсталяваньне і пашырэньне лябораторыяў і габінэтаў, каб даць магчымасьць студэнтам пасьпешна праводзіць практычныя заняткі. Добра абсталявана хімічная лябораторыя, якая ўжо прапускае ўсіх студэнтаў. Гэта мае вялікае значэньне. Для правільнай пастаноўкі працы лябораторый Інстытут будуе ўласны газавы завод, абсталяваньне якога ў хуткім часе ўжо скончыцца. Значна разьвіліся ў гэтым годзе лябораторыі: глебавая, мінэралёгічная, зоолёгічная, батанічная і інш.

Бібліатэка Інстытуту ў сучасны момант зьяўляецца ўжо ня толькі ўспамагацельнаю ўстановаю для студэнтаў, а і каштоўным зборам кніг для навуковай працы прафэсароў і ўсіх навуковых супрацоўнікаў.

У бібліатэцы маецца ўжо каля 11.000 тамоў, прычым каля 2.000 чужаземных спэцыяльных навуковых кніжак. Нядаўна бібліатэка папоўнілася каштоўным зборам кніжак па лесаводзтву, якія куплены пасьля сьмерці дырэктара Эбэрсвальдзкай Лясной Акадэміі праф. Данкельмана. Асабліва шмат кніг на нямецкай мове, што прымушае студэнтаў энэргічна вывучваць гэту мову.

Акадэмічная карпарацыя складаецца з 18 праф., 11 выкладчыкаў, 17 асыстэнтаў, 4 ляборантаў і 1 навуковага супрацоўніка, усяго 51 чалавек. Між іншым у апошні час запрошаны і ўжо прыступілі да працы праф. прыватнага земляробства Ключароў, праф. агульнага лесаводзтва Высоцкі і праф. мэтэоролёгіі Мышкін. Акадэмічная карпарацыя не замыкаецца ў сваіх навуковых габінэтах, два разы ў месяц па суботах чытаюцца прафэсарамі і выкладчыкамі публічныя лекцыі пад агульнаю назваю „Новыя дасяганьні ў галіне навукі і тэхнікі“, якія цікавяць ня толькі студэнцтва, але і пастароннюю публіку. Два разы ў месяц адбываюца адчыненыя паседжаньні навуковага таварыства пры Інстытуце. Найбольш ярка выражаюць акадэмічную працу Інстытуту выдаваемыя ім „Запіскі“. На днях выйшаў у сьвет другі выпуск „Запісак“ у 300 старонак, які дае шмат цікавых навуковых артыкулаў і арыгінальных дасьледаваньняў. Шмат месца ў гэтай кнізе займае дасьледаваньне Беларусі, так, напрыклад, артыкул: „Аб глебах Беларусі“ праф. Касаткіна, „Пэрспэктывы лясной вопытнай справы ў Беларусі“ праф. Тоўсталеса, „Сусьлікі ў Беларусі“ праф. Яцэнткоўскага і інш.

Студэнцтва ў гэтым годзе сваім лікам падвоілася (ўсяго 540 чалавек). Большасьць студэнтаў—гэта дзеці беларускай вёскі, беднякі і сераднякі сяляне. Праўленьне Інстытуту прымае ўсе крокі дзеля палягчэньня матар'яльнага становішча студэнцтва: заснована 75 стыпэндыяў, адчынена сталоўка, інтарнат хоць, вядома, ўсяго гэтага мала.

Інстытут гатуе будучых аграномаў і лесаводаў ня толькі спэцыялістамі свайго дзела, але й грамадзян. Запрошаны лепшыя лектары па грамадзянскіх навуках: праф. Вольфсан, Герцык, Сянкевіч, па беларусазнаўству—Лёсік, Дыла.

### Віцебскі Вышэйшы Пэдагагічны Інстытут.

Арганізаваны ў 1923 г. Віцебскі Вышэйшы Пэдагагічны Інстытут зьяўляецца для Беларусі досыць саліднай вучэбнай установай. Утварэньню Інстытуту, як вышэйшай установы, і пастаноўцы яго на добры грунт шмат спрыяла зачыненьне ў 1922 г. Віцебскага Археолёгічнага Інстытуту і ў 1923 г. Сельска-Гаспадарчага Інстытуту. Дзякуючы апошняму выпадку, Пэдагагічны Інстытут змог прыцягнуць да працы лепшыя навуковыя сілы ў краі і вельмі добра абсталяваць Інстытут вучэбна-дапамагаючымі ўстановамі.

З самага пачатку свайго заснаваньня Інстытут арганізаваў тры аддзяленьні: біолёго-географічнае, фізыка-матэматычнае і сацыяльна-гістарычнае (апошняе з сэкцыямі гістарычнай і славеснай) і ўва ўсіх аддзяленьнях наладзіў заняткі на трох курсах.

Студэнтаў у 1923-24 акадэмічным годзе значыцца 403 чал., якія па свайму сацыяльнаму і нацыянальнаму складу маюць вось гэткі падразьдзел:

**Па сацыяльнаму становішчу.**

| | |
|---|---|
| Сялян 212, з якіх бяднейшых | 112 |
| і сераднякоў | 100 |
| Рабочых | 78 |
| Савецкіх служачых | 78 |
| Асоб вольнай прафэсіі | 9 |
| Усіх іншых | 26 |

**Па нацыянальнасьці.**

| | |
|---|---|
| Беларусаў | 269 |
| Жыдоў | 75 |
| Вялікарусаў | 49 |
| Другіх нац. меншасьцяў | 10 |

Як бачым, галоўная маса студэнцтва Інстытуту складаецца з беларускага сялянства з пераважнай лічбай бедноты.

Інстытут утрымліваецца на сродкі Віцебскага Губіспалкому і на прыбытак ад сваіх майстэрняў, якія кожны месяц даюць Інстытуту чыстага прыбытку каля 2.000 руб. золатам.

Для навукова-вучэбнай працы пры Інстытуце знаходзіцца пастаянных прафэсароў і прападаваццеляў 25 асоб, з якіх 12 чал. маюць прафэсарскае званьне. Інстытутам прымаюцца рашучыя крокі ў далейшым прыцягнуць да працы выдатнейшых вучоных Расеі. Нядаўна выбраны пастаяннымі прафэсарамі Інстытуту: праф. Шліттэр (Ленінград), праф. Рол (Харкаў), праф. Шадлун (Масква)—для выкладаньня навук па біолёго-географічнаму аддзяленьню. Памянёныя праф. далі згоду пераехаць у Віцебск на пастаянную аседласьць. Але асабліва трэба вітаць стараньні Віцебскага Інстытуту прыцягнуць да навуковай працы нямецкіх вучоных. У выніку гэтых стараньняў праф. Бэрлінскага Унівэрсытэту Шытц даў згоду пераехаць у Віцебск.

Для разьмяшчэньня аудыторыяў і вучэбна-падсобных установ Інстытут займае будынак б. духоўнай сэмінарыі і будынак б. мужчынскай гімназіі. Апроч гэтага, Інстытут займае яшчэ занова адрамантаваны будынак, вельмі чысты і прасторны для студэнцкага інтэрнату, у якім зьмяшчаецца 100 бяднейшых студэнтаў.

Бяднейшаму студэнцтву Інстытут выдае 54 стыпэндыі.

Пры Інстытуце працуюць мэханічныя майстэрні: 1) сьлясарна-такарная; 2) свая электрычная станцыя; 3) некалькі кузьняў; 4) сталярна-такарная; 5) пераплётна-картажная і 6) літаграфія.

Апрача гэтага Інстытут мае бібліатэку каля 60.000 тамоў, у якую ўліліся і кнігі зачыненага ў Віцебску Археолёгічнага Інстытуту (26.000). У бібліатэцы шмат каштоўнейшых выданьняў па краю, вельмі рэдкія старадрукаваныя кнігі, астаўшыяся ад Полацкай езуіцкай акадэміі, зачыненай у 1822 годзе.

Інстытут мае ў сваім непасрэдным веданьні этнографо-археолёгічны музэй, які састаўлен з калекцыяў б. Археолёгічнага Інстытуту і разьмешчаны ў пакоях б. мужчынскай гімназіі.

Пры Інстытуце функцыянуе вопытная школа 2-й ступені і цэнтральны дзіцячы ачаг.

Заслугоўваюць увагі і габінэты Інстытуту. Да гэтага часу ўжо састаўлена і абсталявана сем габінэтаў: фізычны і электра-тэхнічны, географічны, геолёгічны, гістарычны, лябораторыі: зоолёгічная, батанічная і хімічная. Хімічная лябораторыя надзвычайна багата сваімі разнастайнымі прыборамі. Канчаецца абсталяваньне псыхолёгічнага габінэту, лябораторыя і рухавік унутранага згараньня.

*) **Ад рэдакцыі**: З прычыны таго, што аб Беларускім Дзяржауным Унівэрсытэце грамадзянства Заходняй Беларусі ужо ведае, падаем матар'ялы толькі аб трох вышэйшых школах.

# Вольная Беларуская Трыбуна.

## Трэба дагаварыцца да канца...

*(На конт артыкула „Чарговыя Заданьні“. Гл. „Г. Б.“ № 10).*

Ня будзем спрачацца з тым, што бязспрэчна. Беларускі рух расьце і пашыраецца. Гэта бязумоўна. Бязумоўна і тое, што ён грунтуецца на больш-менш аднароднай сацыяльнай базе — работніцка-сялянскай. Бязспрэчна і тое, што беларускі рух мае рэвалюцыйнае сэрца, мае пэўныя і палітычныя і сацыяльныя тэндэнцыі... Але, ёсьць але. Тыя вывады, якія робіць сябар В. Віктарынскі, далёка не бязспрэчны і ёсьць у іх ня толькі недагаворанасьць, але і неямасьць. Перш за ўсё на конт арганізацыі і кіраўніцтва масавым беларускім рухам.

Тут перш за ўсё устае праблема Ўсходу і Захаду. На Усходзе, як відаць з усяе кароткае гісторыі Радавае Беларусі,—беларускім рухам кіруе і яго арганізуе сама дзяржава. Сталіца Б. С. С. Р., Менск—гэта тая кузьня, дзе выкоўваецца ня толькі нацыянальная сьвядомасьць, але ажыцьцяўляюцца палітычныя і сацыяльныя ідэалы беларускага народу ў пэўных формах. Там справа стаіць ясна і бязспрэчна і Менск добра ведае, чаго ён хоча.

Зусім ня тое ў нас, у Заходняй Беларусі. Тут беларускі рух зьяўляецца, папраўдзе кажучы, рухам нелегальным. І за беларускую мову і за беларускую школу тут зусім лёгка сесьці ў вастрог, ня кажучы ўжо аб палітычных і сацыяльных дамаганьнях. Само сабою разумеецца, што гэта, а ня што-небудзь іншае было галоўнаю прычынаю тае разьбежнасьці, таго хістаньня беларускае думкі, якая так характэрна для Заходняе Беларусі за апошнія гады.

Беларускі Нацыянальны Камітэт наш слабы не затым, што ён выдзяліў *лепшыя свае сілы* ў Польскі Сойм. Аб'ектыўная чыста прычына была галоўнаю прычынаю яго слабасьці і ў першую чаргу прычынаю слабасьці Б. Н. К. было тое, што найактыўнейшыя, найбольш сьвядомыя рабочыя і сяляне не маглі прыняць удзелу ў працы Б. Н. К. У гэтым сэнсе мы зусім згодны з прапазіцыяй сябра В. Віктарынскага, які прапісаў рэцэпт: „уліць у жылы Б. Н. К. здаровую сялянскую і работніцкую кроў“. Калі гэта будзе зроблена—гэтым праблема здаровага цэнтру беларускага нацыянальнага руху будзе больш-менш вырашана і ў нас,—на Захадзе.

Цяпер на конт адзінства беларускага руху. Мы павінны зазначыць, што тут трэба зрабіць пэўныя агаворкі, бо ёсьць адзінства і „адзінства“. *Ёсьць адзінства на грунце пэўнае праграмы і прынцыпаў* і ёсьць адзінства наагул, бяз прынцыпаў, бяз руля, бяз пэўнае. пэрспэктывы і шляху. Безумоўна, калі В. Віктарынскі думае аб першым адзінстве, абмежаваным аднароднаю сацыяльнаю базаю, работнікамі і сялянамі,—мы такое адзінства вітаем. Калі-ж адзінства неабмяжованае — мы яго павінны рашуча адкінуць, бо такое адзінства ня толькі не замацуе, але скампрамітуе беларускі рух, аслабіць яго...

Тое-ж самае трэба сказаць і аб нацыянальнай дысцыпліне. Гэты лёзунг мы павінны расшыфраваць і сказаць ясна і проста: *Калі гэта будзе арганізаванасьць і дысцыпліна працоўных грамадаў — трэба і вельмі трэба гэта беларусам.* Гэта вялікая рэч. Калі-ж гэтая дысцыпліна будзе для беларускіх грамадаў, ды пры тым яшчэ калі гэтую дысцыпліну будуць заводзіць людзі, якія самі ня любяць дысцыпліны, то само сабою, што такую дысцыпліну мы павінны таксама рашуча адкінуць.

Яшчэ адно пытаньне мне хацелася закрануць: *гэта праблему адзінства Ўсходу і Захаду.* Для беларускага нацыянальнага руху гэтая праблема становіцца цяпер грунтоўнай і самай важнай праблемай. На вялікі жаль, В. Віктарынскі ў сваім артыкуле яе не закрануў. А трэба было-б. Бо тое ці іншае вырашэньне гэтае праблемы вельмі спрыяла-бы „максымальнаму выяўленьню народнае энэргіі“.

**Міхальскі.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**Конкурс на лепшы праект дзяржаўнага гэрбу Б. С. С. Р.** Сэкратарыят Ц. В. К. Радавае Беларусі абвясьціў конкурс на лепшы праект дзяржаўнага гэрба Беларускае Рэспублікі. Гэрб павінен характарызаваць асабістасьці Беларускае рэспублікі і сувязь яе з С. С. С. Р. Праекты павінны быць дастаўлены не пазней 5-га сакавіка.

**Ахова помнікаў старажытнасьці.** Пры Інстытуце Беларускае Культуры зложылася камісія з экспэртаў, якая павінна распрацаваць плян аховы ўсіх помнікаў старажытнасьці і мастацкіх твораў.

**Архэолёгічная знаходка.** У мястэчку Пагосьце, Чэрвенскага павету знайдзены камень вагою каля 20 пудоў з незразумелымі пісьменамі. Камень прывезены ў Беларускі музэй.

**Т-ва „Прэч Няпісьменнасьць!“.** У Менску арганізавалася Т-ва „Прэч Няпісьменнасьць!“ Часовае праўленьне Т-ва апрацоўвае статут і плян працы на бліжэйшы час. Арганізацыя гэтага таварыства мае сувязь з пастановамі аб скасаваньні няпісьменнасьці сярод жыхарства Беларусі.

**Дом селяніна.** Пазашкольную сельска-гаспадарчую асьвету ў Менску вядзе сялянскі клюб, які адчыніўся нядаўна, у сьнежні месяцы. Да гэтага часу ў „Доме Селяніна“ прачытана каля 40 лекцыяў на розныя сельска-гаспадарчыя тэмы. Лектарамі зьяўляюцца аграномы і студэнты інстытуту Сельскае Гаспадаркі.

**Навіны беларускае літэратуры, зборнік апавяданьняў М. Чарота.** Беларускім Менскім выдавецтвам здадзены ў друк зборнік апавяданьняў М. Чарота (М. Кудзелькі). Малады талентны паэт, які нажыў сабе славу нашумеўшаю паэмаю „Босыя на вогнішчы“ і бадзёрымі вершамі (выйшлі асобным зборнікам „Завіруха“),—зварочвае на сябе ўсё большую і большую ўвагу, як і здольны празаік.

Яго апавяданьнямі, надрукаванымі ў свой час у часопісах і газэтах, зачытывалася молодзь.... Лёгкі стыль, абразнасьць, цікавы сюжэт, сучаснасьць —вось характэрныя адзнакі яго апавяданьняў.

Найбольш вядомыя з іх: „Палачка-шкрабалачка“, „Галя“, „Сьвінапас“, „Саматканая сьвітка“, „Споведзь самагоншчыка“.

**Працы А. Ярушэвіча.** Пасьля сьмерці быўш. дырэктара Маладэчынскай настаўніцкай сэмінарыі А. Ярушэвіча засталіся — беларуская граматыка і беларускі слоўнік, якія цяпер знаходзяцца ў Рагачове.

Інбелкультам прыняты крокі да азнаямленьня з рукапісамі гэтых прац.



# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

# ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

**У Беларускім Пасольскім Клюбе.** Выбраны новы прэзыдыум Беларускага Пасольскага Клюбу ў складзе старшыні Б. Рагулі і сяброў С. Рака-Міхайлоўскага і В. Багдановіча.

**У справе пасла Барана.** Выбаршыкі-беларусы Горадзенскага вокругу выслалі ў Сойм пратэст проціў арышту пасла Барана, у якім дамагаюцца як найхутчэйшага звальненьня з вастрогу пасла Барана, выбранага ў Сойм ад Горадзеншчыны.

**Пасольскі мітынг.** У Нясьвіжы 16-га гэтага сакавіка адбыўся справаздаўчы мітынг пасłоў Беларускага Пасольскага Клюбу, на які зьехаліся прадстаўнікі беларускага сялянства з усяго павету. З прамовамі выступалі паслы: Б. Рагуля, М. Кахановіч, кс. А. Станкевіч і сэнатар Назарэўскі. Падрабязную справаздачу падамо ў чарговым нумары.

**Пасольскія мітынгі.** 9 сакавіка адбыўся пасольскі справаздаўчы мітынт у Глыбокім, Дзісьненскага пав. Прамаўляў пасол **Мятла.**

16 сакавіка быў вызначаны зьезд-мітынг у Нясьвіжы, на які кожная валасьць павінна была прыслаць па 2—5 дэлегатаў. На гэты зьезд выехалі паслы Рагуля, кс. Станкевіч і Кахановіч.

23 сакавіка адбудзецца беларускае веча ў м. Докшыцах.

У нядзелю, 23 гэтага сакавіка ў залі Белар. Гімназіі (на Вострабрамскай 9) адбудзецца арганізаваная Беларускім Студэнцкім Саюзам лекцыя Я. Драздовіча, на тэму „Будаўніцтва на Беларусі ў старыя часы“.

**Зноў Муха.** „Rzeczpospolita“ паведамляе, што Муха зноў распачаў кіпучую дзейнасьць. Так, быў зроблены напад на двор Зарэчча, Лунінецкага павету, а пасьля на паліцэйскі пастарунак у вёс. Навасёлкі, дзе разстралялі камэнданта і аднаго паліцэйскага. Злавіць Муху і на гэты раз не ўдалося.

## Весткі з вёскі.

**Вёска Лукі**, Нясьвіжскага пав.

Цікавыя рэчы дзеюцца ў нашай вёсцы. Але настолькі цікавыя, што іншы раз ад іх робіцца то сьмешна, то млосна. У першым нумары адзінай нашай беларускай газэты „Голас Беларуса“ была надрукована карэспандэнцыя пра пажар у маёнтку Адамова і пра вынікі таго пажару, калі нашы сяляне, якія былі арыштаваны, мусілі даць п. камэнданту па 5 ф. сала і масла і па 10 яек, а ў Нясьвіж завязьці па 8 пуд. сена. Усе загады сяляне выпаўнілі бяз спрэчак. Але пагледзім, што з гэтага ўсяго выйшла. На масьлянку солтыс нашае вёскі сабраў хлапцоў, якія давалі сала і інш., і, даючы ім 15.000.000 марак за яйкі, нагаварываў іх, каб яны падпісаліся, што ўсё гэта яны прадавалі, а ня так далі. Відаць, што яйкі, масла і сланіна нарабілі пану камэнданту вялікага смуроду, што ён кінуўся на такую рэч. Абяцалі так сама заплаціць 60.000.000 марак і за сена. І ўсё гэта зрабіла толькі адна карэспадэнцыя. Затое-ж заступнік камэнданта пан Маскалевіч аж да гэтага часу шукае аўтара таго артыкулу. Мусіць пагаварыў-бы ён з ім пасвойму.

**П. Тутэйшы.**




Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.